# НАВІНКІ

Аўторак, 30 сакавіка 1999 №5(13) Кошт свабодны

# А ТЫ




# НАТАЎСКІ САМАЛЁТ?

## Апазыцыя адчыняе Другі фронт

24 сакавіка стала ня толькі пачаткам Трэцяй сусьветнай вайнушкі, але і апошнім днём прамалінейнасьці палітычных схемаў і практыкаў часоў ялцінскай эпохі. У гэтым сэнсе беларускім уладам трэба апэратыўна адмовіцца ад састарэлых паліталягічных нэўрозаў і, у прыватнасьці, перагледзець сваё стаўленьне да ўнутранай апазыцыі. Галоўны гемарой, што павінен трывожыць дзяржаўных чыноўнікаў, гэта ці можна прыпахаць апазыцыйных балбесаў да барацьбы славянскай расы за свае інтарэсы. Думаецца, што так. Для гэтага трэба як мага хутчэй падключыць беларускіх дысыдэнтаў у структуры глябальнага славянскага фронту супраць плянэтарнага жандара.

Галоўная пасылка заключаецца ў тым, што беларуская апазыцыя можа выдатна абуваць Дзядзьку Сэма на «зялёныя». Паводле самых сьціплых зьвестак «Рэзанансу» колькасьць бабак, на якія нашы дысыдэнты разьвялі ў мінулым годзе буржуйскія фонды для барацьбы з Лукашэнкам, вымяраецца шасьцізначнымі лічбамі. У перакладзе на жаргон ваенных зводак гэта значыць, што амэрыканскія паветраныя карсары не далічыліся два-тры бамбардзіроўшчыкі разьліву «Вэйтс-2» ці «Стэлз». Унушальна, ці ня праўда?

Куды круцей за віртуальныя дабраахвотнікі Жырыка, якія толькі і здатныя, каб псаваць паветра патрыятычнымі слоганамі. Беларуская апазыцыя і надалей можа патрашыць фінансавыя закрамы Захаду і прымушаць Пэнтагон корчыцца ў сутаргах страшэннага грашовага дэфіцыту, паслабляючы такім чынам магутнасьць ваеннай махіны паўночных атлянтыкаў у небе Косава або ў водах Пэрсідзкай затокі. Ня трэба толькі ёй у гэтым замінаць. Наадварот, беларускія ўлады павінны нарэшцэ вызнаць пазытыўныя якасьці дэмакратаў і максымальна пасобнічаць іхным вылазкам.

Трэба катэгарычна вызначыцца. Палітыкі-аўтсайдэры, псэўдадэпутаты, выбарчыя камітэтчыкі, тэндэнцыёзныя журналісты, грамадзяне й грамадзянкі БНР ды іхныя нашчадкі: усе, хто яшчэ ўчора лічылі за правіла добрага тону пнуць нагою ідэалы славянскай салідарнасьці пад зад, могуць прыносіць гешэфт славянскай справе.

У Кобзона отыскалась внебрачная дочь? Стр. 5

КОМСОМОЛЬСКАЯ ПРАВДА! В Белоруссии

Натовцы забросали югославов бомбами, а мы американцев - ЯЙЦАМИ

Ненависть к НАТО объединила даже фанатов «Спартака» и ЦСКА, а прохожие «мочили» посольство США, выражая протест

## Куды ляцяць беларускія яйкі?

Плявок у самы закуток душы беларускага народу. Якімі яшчэ словамі можна ахарактазаваць апошнія паводзіны расейскіх патрыётаў каля амэрыканскіх амбасадаў? Нашы г.зв. славянскія браты, нібы пратэстуючы супраць бамбардзіровак Сэрбіі, цынічна закідваюць фасады амэрыканскай амбасады яйкамі ад беларускіх бройлераў (экспартны варыянт!). Можна ўявіць рэакцыю на гэтыя выкідоны простых беларускіх грамадзянаў, якія ня бачаць яек, як расейскія шахцёры заробку. У транспарце, у курылках, у чэргах толькі й базараў: «Яны яшчэ б сырнымі галоўкамі або пакетамі з цукрам шпурлялі, гарганцюа маскоўскія!» Відавочна, што такое яйкамятаньне на руку выключна праціўнікам працэсу расейска-беларускай інтэграцыі. Пакуль ня позна, пакуль апазыцыя не ўвагнала чарговы прапагандысцкі кол у вязі славянскага братэрства, трэба прыпыніць вапіюшчую дывэрсію супраць беларускага ладу жыцьця!

***Амэрыканскі самалёт-невідзімка «Стэлз» зьбіты нявідзімымі сербскімі ракетамі (гл. фота ўнізе). Пілота-янкі пакуль што не знайшлі. Падрабязнасьці на стар.5***

***Нашым чыноўнікам няма што красьці.***

**Заплаці штрафы й сьпі спакойна!**



Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Тыраж 6900 экз. Адрас для карэспандэнцыі: п/с42, 220085 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by



# ДЭМАКРАТЫЯ НЯ ТОНЕ!

**Скангрэсаваныя дэмакратычныя сілы нашай краіны поўныя рашучасьці любой цаной давесьці да канца прэзыдэнцкія выбары. І нават стыхійная паводка, што абрынулася на поўдзень краіны, толькі ўмацавала і сплаціла сапраўдных змагароў за дэмакратыю. Наш сёньняшні рэпартаж – аб буднях тэрытарыяльнай выбарчай камісіі ў адной зь незьлічоных палескіх вёсак, куды й быў накіраваны наш спэцыяльны карэспандэнт.**

Зьлёгку пагойдваючыся на пяшчотнай вясновай рабі, нос каўчэгу ўпэўнена расьсякае хвалі; капітан, адклаўшы бінокль, харкае за борт: «Курс зюйд-зюйд-вэст, выбарчы ўчастак №47, тысячу якароў вам у задніцу!», і карабель імкліва кладзецца ў дрэйф да новай мэты.

Мы знаходзімся на борце плывучага штабу кампаніі па выбарах прэзыдэнта. Мой суразмоўца – кіраўнік мясцовай выбарчай камісіі. Да мэты – невялічкай вёсачкі, затопленай вясновай стыхіяй – яшчэ гадзіна, і нам ёсьць пра што паразмаўляць.

«Калі паводка пачала наступаць, у нас апусьціліся былі рукі. Але цэнтар даў ясны загад: да 16 мая выбары трэба правесьці, як піць даць! І мы вымушаныя былі прыстасоўвацца да ўмоваў...»

Нас нечакана абрывае крык: «Чалавек за бортам!»

Уся каманда прыходзіць у рух. «Права руля!» – камандуе капітан. – «Выратавальнае кола, вашу маць! Бляնкі, блянкі рыхтуйце! Дзе падпісныя лісты?» Мы ўрэшце кідаем якар ля дрэва, на вяршыне якога сядзіць самотны, прамоклы да ніткі мужык. Вочы небаракі сьвяціліся надзеяй. Яму хутка тлумачаць, што выратаваньне – як усёй краіны, гэтак і яго ў прыватнасьці – заключаецца ў неадкладным падпісаньні за абодвух кандыдатаў у прэзыдэнты. Інакш ён можа боўтацца тут і далей, чакаючы якога дзеда Мазая.

Пакуль мужык падпісваецца, выціраючы сьціплыя мужчынскія сьлёзы, я стаю ля кубрыку і чытаю інструкцыю Цэнтарвыбаркаму. «Каб сфармаваць выбарчую камісію, вазьмі ад кожнай партыі па пары прадстаўнікоў...»

Капітан вяртаецца, і мы працягваем: «Спадзяюся, гэты рэйд скончым у тэрмін. Народ сам ідзе, дакладней, плыве да нас. Бачыце, якія прыцягальныя ідэі дэмакратыі?..»

«Скажыце, а напэўна ж у вас не без праблемаў зь мясцовымі ўладамі?»

«Ну, па-рознаму. З украінскай берагавой аховай поўнае паразуменьне: пара грыўняў – і справа ў кішэні. А нашых мы й блізка яшчэ ня бачылі – у нас двіжок мацнейшы. Так што галоўная праблема, гэта канкурэнты».

*«Каб сфармаваць выбарчую камісію, вазьмі ад кожнай партыі па пары прадстаўнікоў…»*

«Якія такія канкурэнты?!»

«Пашанцуе – самі пабачыце».

І вось вёска радасна сустракае носьбітаў дэмакратыі. На борт каўчэгу падымаюцца ўсё новыя й новыя людзі, і мы адчуваем, што патрэбныя ім.

Стары дзед ня хоча зьяжджаць без кабана Боркі. На шчасьце, капітан – чалавек добры і чульлівы, і, падпісаўшыся за сябе й за Борку, дзед трапляе на борт.

За час плаваньня адбыўся толькі адзін зрыў: лідэру мясцовай суполкі БНФ вера забараняе падпісвацца за Чыгіра. З болем мы назіраем, як няшчасны фронтавец мечыцца па даху затопленай хаты, агалошваючы акругу жалобнымі енкамі.

Здаецца, плян на сёньня выкананы. Радасна, зь песьнямі вырульвае карабель на зваротны курс. Але, як аказалася, самыя цікавыя прыгоды яшчэ наперадзе.

«А вось табе й канкурэнты!» – кажа капітан, паціраючы рукі. «Палундра!» Песьня абрываецца, і каманда замірае, насьцярожана ўзіраючыся ў лінію далягляду. Там, на падыходах да вёскі, відаць чужое судна, на высока ўзьнятым сьцягу якога надпіс «Хартыя-97». Зразумеўшы, што «папалі», хартыйцы спрабуюць даць дзёру, але ім не сысьці ад заслужанай расплаты. Пад радасныя воплі каманды мы наганяем іх, і над вадой, перакрываючы ўсё, разносіцца доўгачаканы хрыплы крык капітана: «На абардаж!!!»

Пасьля кароткай патасоўкі наша каманда вяртаецца на борт з багатымі трафэямі – 34 тысячы запоўненыя падпісныя лісты чыстай вагой!

Кладучыся ў курс дахаты, матросы радасна думалі пра тое, колькі ім адваляць за подпісы партовыя перакупшчыкі, каб на гэтыя грошы загуляць на дзянёк-другі перад наступным рэйдам. ●

**Рубан Глебаў**

## БіржавЫя навІнкі

### Каціроўкі на падпісныя лісты ТНК «Paznyak enterprises» імкліва паніжаюцца

Па-ранейшаму горача праходзяць таргі на Цэнтральнай Выбарчай Біржы. За апошні тыдзень назіраліся хістаньні коштаў на подпісы за кандыдатаў у прэзыдэнты ад асноўных удзельнікаў таргоў: сумеснага беларуска-расейскага прадпрыемства «Chyhir ltd.» і транснацыянальнай карпарацыі «Paznyak enterprises». І надалей застаецца цьвёрдым курс падпісных лістоў СП «Chyhir ltd.». Паводле стану на 25 сакавіка кошт аднаго подпісу складаў 30 цэнтаў, што мала адрозьніваецца ад кантрольных паказчыкаў мінулага тыдню.

Як заявіў прадстаўнік брокерскай фірмы «Груша і К°» сп. Кірыл Ігнацік, падпісным лістам «Chyhir ltd.» забясьпечаны сталы попыт на рынку збору подпісаў. Гэта тлумачыцца яшчэ і высокай ліквіднасьцю гэтых каштоўных папераў. Чакаецца, што на працягу наступнага месяцу курс аднаго падпіснога ліста павялічыцца на 7 працэнтных пунктаў.

Зусім іншая сытуацыя з каціроўкамі падпісных лістоў назіраецца ў галоўнага канкурэнта «Chyhir ltd.» – ТНК «Paznyak enterprises». На працягу лютага-сакавіка назіралася рэзкае хістаньне курсу, які вар'яваўся ў вобласьці ад +1 да -4 цэнтаў за подпіс. Прычым зафіксаваныя выпадкі бартэрных зьдзелак (1 умоўная бутэлька (у.б.) за подпіс).

Гэтая нестабільнасьць выклікала паніку сярод трымальнікаў падпісных лістоў карпарацыі, якія, каб забясьпечыць сталы даход ад збору подпісаў, вымушаныя ствараць дыверсыфікаваныя партфэлі падпісных лістоў. Спэцыялісты з вышэй узгаданай фірмы «Груша і К°» раяць складаць свой партфэль наступным чынам: на 70% з падпісных лістоў СП «Chyhir ltd.» і толькі на 30% – ТНК «Paznyak enterprises». Аднак шмат хто вырашае трымаць недыверсыфікаваныя партфэлі. Як падкрэсьліў адзін з холдэраў падпісных лістоў ТНК «Paznyak enterprises» Павал Севярынец, хто не рызыкуе, той ня п'е кока-колы.

## «Усяслаў Чарадзей» – бяры «Оскар» і х...ей!

Тое, што рускаму чалавеку ў кайф, немцу - сьмерць. Усю горкасьць гэтай сярмяжнай праўды ў чарговы раз засьведчылі наступствы банкету ў Галівудзе з нагоды штогадовай раздачы «Оскараў». Як вы, напэўна, ужо чулі праз сродкі інфармацыі, бэверлі-хілскім кіношнікам у якасьці алькагольнага паліва падагналі гарэлку «Ўсяслаў Чарадзей» з лэйблам «Made in Belarus».

Дык вось, славутыя зоркі экрану, заўсёднікі пракату і майстры ракурсу нажлукціліся як апошнія ханыжнікі. Ну, назюзюкаўся ты, дык будзь жа чалавекам: адыйдзі ў куточак, два пальцы ў глотку – званітуе. Глядзіш – палягчэе.

Але ж у амэрыканцаў усё ня як у людзей. Пачаліся галімыя пэтэвэшныя наезды: «Гэй, ты, я да цябе зьвяртаюся, Спілбэрг, ты як на мой фільм паглядзеў? – А табе што за справа, Ван Дак мудак. – Ты каго мудаком назваў, казьліна! – За казла адкажаш!»

Слова за слова, і штучныя перагародкі буржуазных этыкетаў палі як сьцены Ерыхона. Завязалася мясілава, дастойнае пастаноўкі нябожчыка Брюса Лі ці Бандарчука. Паводле вынікаў начнога дэбошу, больш за іншых пацярпеў знакаміты шафа-Шварц. Тэрмінатар-2 без башкі нагрубіў оскаравай ляўрэатцы, мініятурнай Гуінэд Пэтроў (назваўшы яе шэкспіраўскай падсьцілкай). Баба ад душы так жыганула качка па таблу статуэткай «Оскара», што ў былога «камандаса» пачаліся перадродавыя схваткі. Адным словам, запамінальны адбыўся банкецік, і ўсё дзякуючы артэфакту роднай віна-гарэлачнай прамысловасьці.

Далікатнасьць сытуацыі ў тым, што нічога незвычайнага ўва «ўсяслаўцы» няма. Днямі, напярэдадні футбольнай баталіі з Швайцарыяй, брыгада працоўных з падшыпнікавага скінулася па месячным заробку на флянец улюблёнага напою галівудзкіх кінаакадэмікаў (нагадаем, што адна «Чарадзею» каштуе прыкладна 10 грынаў). Аддэгуставаўшы крышталёўскі элексір, наш пралетарыят у адрозьненьне ад арыстакратычных янкі нікога за бароды не цягаў і морды ня біў. Закусіўшы крывянкай і, я нават сказаў бы высакародна, прапусьціўшы вадкасьць па страваводу, наш спажывец прыйшоў да высновы, што «Ўсяслаў Чарадзей» – гарэлка як гарэлка.



**На фота:** *Зорка дыснэеўскіх мульцяшак, улюблёнец амэрыканскіх дзетак Дональд Дак пасьля банкету на ўручэньні «Оскараў».*

## А тым часам...

Польска-каталіцка-натаўскі анклаў, што зьвіў сабе ўтульнае гняздо на паўночна-заходняй частцы нашай Бацькаўшчыны, даўно ўжо дастаў славянскую цывілізацыю. Відавочна, што Modus Vivendi гэтых пілсудчыкаў – адкалоцца пры першым натаўскім шухеры.

Пакуль жа завочныя агенты белапольскай дыфэнзывы й займаюцца ідэалягічнымі козьнямі, сэнс якіх у тым, каб дэзарыентаваць праваслаўна-атэістычную большасьць. Доказы? Іх хопіць на сотні паказальных шпіёнскіх працэсаў.




Вось вам з апошніх вылазак нашчадкаў езуіта Лаёлы. У Гародні ня гэтак даўно пачалі разьліваць гарэлку пад правакацыйнай назвай «Полька» (што ў перакладзе з польскай значыць «полька»). Камусьці можа падацца, што гэта звычайная барматуха, ад якой зранку страшэнны сушняк і круціць галаву. Аднак, калі паглядзець на згаданы факт пад ідэалягічным градусам, рэчы падаюцца не такімі ўжо й бяскрыўднымі. Заліўшы за каўнер 100 грамаў гэтага пойла, у спажыўца (звычайна, мясцовы пралетарыят) вырубаюцца падкоркавыя аддзелы мозгу, адказныя за палітычную арыентацыю. Ён некрытычна ставіцца да пашырэньня NATO на Ўсход, на аўтамаце падпісваецца за г.зв. кандыдатаў у Прэзыдэнты, перастае чытаць газэты і слухаць радыё. Адным словам, кліент сасьпеў. Цяпер яго можна цёпленькім браць пад ручкі і весьці 16 мая на выбарчыя ўчасткі.

# Такі футбол нам не патрэбны!

## Хто адкажа за паразу беларускай зборнай?

Расцаніць тое, што адбылося, інакш, як дывэрсію, цяжка: матч Беларусь-Швайцарыя завяршыўся зь лікам 0:1! Відавочна, што не абышлося без умяшальніцтва пэўных колаў апазыцыі, чыя шкодніцкая дзейнасьць па дэстабілізацыі ўнутрыпалітычнай сытуацыі добра вядомая заклапочаным колам грамадзкасьці. Несанкцыянавая бел-чырвона-белая сымболіка, у якую была апранутая беларуская футбольная дружына, яскрава адлюстроўвала дэмаралізаваны стан нашай зборнай. Ад самага пачатку няўзброенаму воку гледача былі відаць сур'ёзныя хібы ў маральна-патрыятычным выхаваньні футбалістаў. Хутчэй за ўсё напярэдадні шмат хто зь іх «сачкануў» палітінфармацыю і замест таго, каб штудыяваць інструкцыю Міністэрства футболу па тактыцы й стратэгіі гульні, аддаў перавагу бруднай дыснэеўскай парнусе «Беласьнежка і сем гомаў». Нават подкуп турэцкага арбітра, які не залічыў цалкам справядлівы першы гол у вароты беларускага галкіпэра, ня здолеў выправіць становішча. Расчараваньню балельшчыкаў не было межаў. Увечары ў горадзе адбыліся швайцарскія пагромы. Па ўсіх гатэлях і рэстарацыях ачмураныя алькаголем мясцовыя «тыфозі» лавілі швайцараў і стрыглі ім бакенбарды, адрывалі эпалеты і лямпасы.

Але напярэдадні матчу са зборнай Італіі нельга ўпадаць у паніку. Пэўныя высновы ўжо зробленыя. Адразу ж пасьля заканчэньня сустрэчы Прэзыдэнту трэба падпісаць дэкрэт аб выключэньні ўсіх футбалістаў са складу БПСМ і зборнай, а таксама аб пераводзе трэнэра каманды Вяргіенкі на пасаду лекара-масажыста ў адзін з забітых клюбаў Століншчыны. Касьцяк новай зборнай утвораць пакуль што з членаў алімпійскай хакейнай каманды, якія толькі што вярнуліся зь Фінляндыі, прывезшы залатыя мэдалі ў спаборніцтвах па біятлёну.

Пэўныя прэтэнзіі ўзьніклі і да супрацоўнікаў стадыёну «Дынама». Хто дазволіў прыбраць сьнег са стадыёну прама напярэдадні матчу? З часоў напалеонаўскіх войнаў вядома, што руская зіма – натуральны саюзьнік славянаў. Сёньня, калі натаўскія сьцярвятнікі падцерліся ў паветры Сэрбіі нормамі міжнароднага права, нічога не перашкаджае й нам выкарыстоўваць брудныя сродкі вядзеньня гульні. Гурбы сьнегу і лёд маглі б парушыць стратэгічныя задумкі швайцарскіх трэнэраў. Трэба было не зьбіраць сьнег, а наадварот паболей навезьці яго на поле.

*Прывыкшыя гуляць сярод гурбаў на бульбяным полі, нашы гульцы ня здолелі падладзіцца пад эўрапейскі футбол*

Па гарачых сьлядах Надзвычайнай камісіяй па справах футбольнай бясьпекі можна правесьці апэратыўны досьлед, які б выкрыў «сабатажнікаў» і іхных фундатараў. Відавочна, што не абышлося без «мільёнаў» Багданкевіча і дробных пакасьцяў Маладога Фронту. Злачынцы павінны панясьці суровае пакараньне.

Нажаль добры ўраджай азімай бульбы, сабраны напярэдадні з дынамаўскага поля, – слабое суцяшэньне ў маральнай драме шматмільённай арміі беларускіх аматараў футболу. ●

## *Невядомая вайна*

Новае сэнсацыйнае адкрыцьцё зрабіў вядомы гісторык і археоляг Алег Трусаў. Два месяцы творчай камандзіроўкі на Міршчыне прывялі яго да нечаканай высновы, якую беларускі далакоп шукаў усё сваё сьвядомае жыцьцё.

Аказваецца, да сярэдзіны 17 стагодзьдзя герб Вялікага княства Літоўскага ня меў агульнапрынятай назвы. Часьцей за ўсё яго звалі па-просту: «Дзядзька на кабыле», «Мужык з шабляй», «Конь в пальто» і г.д. Нарадзіцца імю беларускай гістарычнай сымболіцы дапамог выпадак.

У 1654 годзе войскі Маскоўскага княства акупавалі беларускія землі Рэчы Паспалітай. Мужныя беларускія партызаны распачалі супраць акупантаў сапраўдную лясную вайну. Кіраваў партызанкай малады камандзір Януш Радзівіл, пад кіраўніцтвам якога партызаны-«шышы» палілі зерне, уганялі скаціну, скідалі пад адхон царскія абозы. Менавіта тады беларускія патрыёты паўсталі як нацыя, менавіта тады яны загартаваліся.

Баявы атрад на чале з Радзівілам апантана разносіў чарговы абоз, калі ў разгар набегу раптоўна зьявіліся маскоўцы. Афігеўшыя паўстанцы замерлі на месцы, ашалела пазіраючы на сілы праціўніка, якія відавочна таксама на нейкі час разгубіліся. У гэты вырашальны для лёсу нацыі момант не разгубіўся толькі Радзівіл. Пад гучную каманду «ШУХЕР!» беларускае войска імкліва кінулася прэч, выкідаючы праз галовы мячы і дзіды, ратуючы жыцьці сапраўдных патрыётаў. Гучная назва «Шухер» пасьля гэтага выпадку на вякі замацавалася ў народнай памяці як назва нашага старажытнага сымбалю.

Сэнсацыя праліла новае сьвятло на гісторыю добра вядомай кожнаму шчыраму беларусу сымболікі. Трусаў абвясьціў рашучую барацьбу за адраджэньне гістарычных каштоўнасьцяў: «Нарэшце правакацыі сагановіцкіх фальсыфікатараў гісторыі выкрытыя. Ніхто больш не асьмеліцца пацьвярджаць гэбэшную чутку, нібыта наш спрадвечны герб пайшоў ад слова «пагоны»! Хутка гістарычная праўда канчаткова пераможа!» Хочацца верыць у непазьбежную перамогу народных традыцыяў.

І ўжо недалёка засталося да таго дня, калі над нашай шматпакутнай Радзімай зноў залунае вялікі «Шухер».

## *Крымінал*

### Дзе дэмакраты сабаку зарылі

Неяк за агульнай перадвыбарчай гістэрыяй, якую ўжо каторы месяц зацята разьдзімаюць Ганчар і К°, незаўважна праходзіць сапраўды рэальная падзея.

4 красавіка адбудуцца сапраўдныя дэмакратычныя выбары ў мясцовыя саветы. Тым часам апазыцыя пра гэта – ні гу-гу. Чым жа тлумачыцца такое дзіўнае стаўленьне да гэтай падзеі аматараў каго-небудзь павыбіраць, дамысьліць зусім не складана.

Дэкрэт Прэзыдэнта «Аб парадку правядзеньня выбараў у мясцовыя органы кіраваньня» ясна тлумачыць, што «асобы, якія прыцягваліся па суду да адміністрацыйнай адказнасьці, ня маюць права высоўваць сваю кандыдатуру напрацягу 1 году». І такія захады Прэзыдэнта і ўраду трэба падтрымаць, асабліва ў наш цяжкі час, калі хваля адміністрацыйнай злачыннасьці проста захлёствае краіну. Тут і ўсплываюць вапіюшчыя факты парушэньня правапарадку злачыннымі «дэмакратычнымі» гангамі.

Як тут не прыгадаць, што большасьць кандыдатаў у народныя прадстаўнікі ад апазыцыі маюць кожны як мінімум па тры сьвежыя ходкі і ім па-просту нічога ня сьвеціць.

Безумоўным аўтарытэтам сярод адміністрацыйных злачынцаў зьяўляецца былы падводнік Шчукін, які яшчэ з войска цярпеў на клаўстрафілію і зараз проста ня можа працягнуць больш за тыдзень, каб не патрапіць у сваю ўлюблёную камэру №13, якую ён ласкава называе «рубкай капітана далёкага плаваньня».

Так што, адміністрацыйным рэцыдывістам шлях ва ўладу надзейна закрыты. Самі вінаватыя!

## *Напярэдадні выбараў у Дзяржаўную Думу расейскія палітыкі ўзбройваюцца новымі выбарчымі тэхналёгіямі*

# «Усім ім толькі адно патрэбна...»

Апошні трыюмф сэксуальнага маньяка Клінтана перавярнуў палітычныя тэхналёгіі раскруткі да гары нагамі. Першай ахвярай новых тэндэнцыяў стала маскоўская палітычная эліта, што вымушаная цяпер рыхтавацца да надыходзячых парлямэнцкіх выбараў. Пранырлівыя імідж-мэйкеры верна скумекалі: посьпех у электарата гарантаваны толькі тым, хто мае за плячыма шлейф безумных эратычных прыгодаў. Таму сёньня яны прапануюць сваім кліентам з Ахотнага Раду хутчэй забыцца на мараль і аддацца самаму вычварнаму сэксу.

Першым па бабах рвануў Скуратаў, чый ашаламляльны дэбют на РТР прынес расейскаму пракурору нябачаную папулярнасьць у народзе. Посьпех Скуратава быў настолькі відавочны, што яго апанэнты ў Дзяржаўнай Думе ў прыступе адчаю сталі распускаць плёткі, што дзьвюх падруг на відэастужцы запальваў не Генэральны Пракурор, а добра загрыміраваны дублёр. Далей – болей. Каб не апынуцца ў хвасьце палітычнага хіт-параду, лідэры партыяў і фракцыяў пачалі разьдзімаць свой сэкс-імідж і ліхаманкава прыступілі да вырабу самакампраматаў, якія павінны засьведчыць выбаршчыкам сэксуальную патэнцыю будучых кандыдатаў.

Для здымкаў відэаролікаў запрашаюцца самыя дарагія мадэлі з Кутузаўскага праспэкту. Лепшыя рэжысэры, сцэнарысты, візажысты з ранку да ночы экранізуюць Камасутру. Супэрпраектам гэтага эратычнага павадку будзе відавочна фільм «Паседжаньне па пытаньнях этыкі й маралі», што здымаецца пры ўдзеле ўсіх дэпутатаў Ніжняй палаты. Гэты сумесны фільм павінен няхіла падняць у вачах грамадзян прэстыж парлямэнтарызму і, такім чынам, перабіць пляны Ельцына распусьціць Думу. Ці здолее Прэзыдэнт РФ даць адэкватны адказ? ●




Кадры порнафільму з удзелам вядомых думскіх палітыкаў здольныя даць фору самой Чычаліне...

Актуальны комікс «ГАЛУБАЯ ЛУНА»

Толькі для тых, каму споўнілася 18 і мае права голасу

Мілы, што ты думаеш пра выбары 16 мая? Я думаю, што нам трэба падпісацца
Гм-м-м...
Ня ведаю... Здаецца, гэта ўсё пэдэрастыя нейкая...
Чаму, мілы?
Адчапіся! Усяроўна у вас нічога не атрымаецца
Ну чаму ж. адпаведна канстытуцыі-94 выбары мусяць адбыцца у гэтым годзе
Я даўно табе хацеў прызнацца, што я патрыёт
Шалунішка
Так-так, і мяне нешта не перакане
Зараз я цябе перакану
Няўжо ты не разумееш, што
...Толькі у брацкай сям'і славянскіх народаў наша Бацькаўшчына будзе яшчэ больш... Яшчэ... Яшчэ! Мацней! Так! Так!..
дзынь
дзынь
Адчыніце!
Гэта, можа быць, з гаркаму!
Ой!..
Мля!
Вось табе і ўся кар'ера да чорта!
Эх, а каб дэмакратыя
Маеш рацыю! Але я – у шафу!
?!
Есьць хто дома ці не?
Прабачце. Падпішыцеся, калі ласка, за кандыдата у Прэзыдэнты на выбары 16 мая...

## Кася Камоцкая, лепшая карыфанка Японччыка, – каралева аўдыёпірацтва!

# «Хросная маці»

Ёсьць яшчэ такія дзівакі, накшталт Супрановіча ці Сахарава, у якіх словаспалучэньне «беларускі рок» асацыюецца з мужнымі дзецюкамі з даўгімі патламі, бел-чырвона-белымі стужкамі і з гітарамі, аздобленымі васьміканцовымі зоркамі-зьнічкамі. Магчыма, калісьці, у часы «Песьняроў» яно гэтак і сапраўды было. Але цяпер гэтыя два словы выклікаюць зусім іншыя асацыяцыі: паголеныя галовы, масьці, рэкет, крымінальныя разборкі, касухі з Аляксееўскай...

...Прыблізна а трэцяй гадзіне начы жыхары аднаго зь менскіх мікрараёнаў былі абуджаныя страшным выбухам. Гадзіньнікавая бомба за долю сэкунды ператварыла навюткі «шасьцісоты» мэрсэдэс у груду абвугленага жалеза.

Безумоўна, гэта зусім ня тое, чым мусіла скончыцца прэзэнтацыя новага CD гурта «Новае Неба», якая адбылася ў адной з прыватных сталічных лазьняў. Але гаспадыня «мэрсу» зусім не шкадуе сваёй крутой тачкі. І зразумела чаму. Яна мае грошы, каб хоць заўтра набыць сабе дзесяць новых. Бо ейнае імя – Кася.

Упершыню праваахоўныя структуры нашай краіны зьвярнулі пільную ўвагу на гэтую неардынарную жанчыну зусім нядаўна, толькі на пачатку дзевяностых. Менавіта тады супрацоўнікі ФБР арыштавалі ў Нью-Ёрку бясспрэчнага лідэра крымінальнага бізнэсу Расеі Японччыка. Асаў амэрыканскай крыміналістыкі вельмі зьдзівіў той факт, што сярод набору ліпавых дакумэнтаў і агнястрэльнай зброі ў машыне Японччыка была знойдзеная аўдыёкасэта з запісамі на нейкай невядомай мове.

Як сьцьвярджаюць падзельнікі і знаёмцы Японччыка, альбом гурта «Новае Неба» «Сон у трамваі» быў самым любімым запісам вора ў законе. Абсалютна ўсе песьні альбому ён ведаў напамяць. І накіроўваючыся на чарговую правілку, Японччык неаднаразова напяваў «Засынаю, ізноў засынаю...» альбо «Той, хто стаіць у мяне за плячыма...». Гэта, па словах бандзюгі, заспакойвала яго, надавала рашучасьці.

> Той, хто стаіць у яе за плячыма... Таня Камоцкая па мянушцы «Кася» ня сьпіць у трамваі й пасылае ўсіх канкурэнтаў да...

Цікава, але менавіта гэтае выпадковае здарэньне адкрыла вочы беларускай міліцыі на тое, што рэальна адбываецца ў г.зв. «беларускім року» і хто гэтым усім запраўляе.

Ласкавую мянушку «Кася» Тацяна Камоцкая, мілая з выгляду жанчына з блакітнымі васільковымі вачыма, атрымала вельмі даўно, яшчэ падчас сваёй першай адсідкі ў Аршанскай жаночай калёніі №2, куды яна трапіла за махлярства: гастраляваўшы з канцэртамі па Савецкім Саюзе, Танюша выдавала сябе за «Ласковый Май» і падняла на гэтым кучу бабак. На «зоне» гэтая жанчына праявіла сябе як строгае «атрыцалава», ігнаруючы ўсе працоўна-выхаваўчыя мерапрыемствы, нахабным чынам «косячы» ад іх.

Прыйдзе час, і гэтае бадай дзіцячае паганяла ўжо ня будзе адпавядаць ісьцінай сутнасьці Камоцкай. Вярнуўшыся з «зоны», Кася ізноў узялася за старое: гастралявала ў якасьці «Фристайла», «Миража» і Жэні Белавусава. Але хутка яна зразумела, што музычная шабашка ўжо не прыносіць асабліва вялікага прыбытку. Самы час быў перакваліфікоўвацца.

Паводле зьвестак аддзелу МУС РФ па аўдыёпірацтву, ужо на пачатку дзевяностых гадоў Кася кантралявала каля трыццаці працэнтаў рынку збыту пірацкіх аўдыё- і відэазапісаў у Маскве, Піцеры і Таганрогу.

Дарэчы, вялікую цікавасьць выклікае і «фірма гуказапісу», на якой выйшлі касэты «Народнага альбому». Назва фірмы схаваная пад загадкавай абрэвіятурай БМА. Але шмат якія нашыя чытачы, відаць, моцна зьдзівяцца, прачытаўшы пра тое, што дзякуючы тром сьціплым канцэртам з цыклю «Вольныя танцы» было адмыта каля чатырох мільёнаў даляраў брайтанаўскіх «вароў у законе». Падобная праца для кіраўнікоў гэтай канторы не ў навіну, і таму да іх ставяцца зь вялікай павагай нават такія аўтарытэты, як Слаўка Корань і Гарык Крама.

Нават самыя крутыя сонцаўскія браткі не здагадаліся б праводзіць свае сходнякі афіцыйна, здымаючы дзеля гэтага лепшую залю гораду. А ў нас – калі ласка. І ўжо пяты год вары і аўтарытэты, добра адсьвяткаваўшы Новы год на Канарах альбо ў Пальма-дэ-Мальёрка, прыяжджаюць пахмяляцца ў Менск. Менавіта тут адбываецца традыцыйная сходка-каранацыя – мерапрыемства, на якім самыя крутыя аўтарытэты атрымліваюць статус «вора ў законе», праходзячы праз рытуал «каранаваньня».

У гэтым годзе карона ізноў не дасталася Касі. Ёй давялося задаволіцца сьціплым тытулам «хроснай маці». Таксама някепска. Тым больш, што ёсьць усе шанцы дасягнуць сваёй мэты ў наступным годзе. ●

## ДОшка абЯваў

Праводзіцца запіс дабраахвотнікаў для аказаньня інтэрнацыянальнай дапамогі братняму народу Югаславіі.

Дасьведчаны псыхіятар дапаможа закасіць ад службы ў Дабраахвотніцкім корпусе.

Цябе кінула дзяўчына? Табе сумна й не хочацца жыць? Курсы ды-джэяў «Адраджэньня» дапамогуць табе разабрацца ў тваіх праблемах. Прыходзь! Мы чакаем штопанядзелак а 17 гадзіне на Варвашэні,8. Тэл. 284-50-12

Трэнэр, майстар спорту па футболу шукае працу. Хакейныя клюбы не прапаноўваць! Вяргіенка

## УВАГА!

Рэдакцыя абвяшчае выкуп выпуску газэты **«Навінкі #3»** (красавік 1998)

**Кошт аднаго асобніку 1$**




## ФЛАЕР

на ўдзел у апазыцыйным мерапрыемстве......................................

За ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве 15 сутак.
**Па флаеру 5 сутак**